# НІВА

Год выдання V
№ 29 (229)
17 ЛІПЕНЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА


ЛЕАПОЛЬД СТАФ

## ПЕРШАЯ ПРАГУЛКА

**Жонцы**

Мы будзем жыць ізноў ва ўласным доме,
Ізноў хадзіць па сонечных пакоях.
Ніхто аб гэтым не казаў нікому —
Так вецер шэпча ранняю парою.
Няхай пакуль яшчэ усюды папялішчы, —
Не плач. Хоць цяжка слёз не ліць жанчыне.
Жывем, хоць смерць спраўляла тут ігрышчы.
Хадзем мы на прадмесце — тут адны руіны.
Мінем замоўкшыя трамвайныя прыстанкі·
Жанчына бедная у вуліцы праломе
Стаіць і прадае сухія абаранкі.
Мы будзем жыць ізноў ва ўласным доме.
Вітрыны цьмяныя, замкнуты крамы.
Але ўсё адраджаецца жывое,
З кашом грыбоў стаіць сляпец ля брамы.
Мы будзем жыць у сонечных пакоях.
Дрыжыш ад холаду? Дык атуліся шалем.
Без ног, без рук, у зношаных уборах
Калекі, інваліды селі за шпіталем.
Ты бачыш, скончыўся ўжо горад.
Куды ні глянь, вакол ляжаць парканы.
На грузе цэглы дзіцянё гуляе
Жанчына мые свой лахман падраны.
І певень у куратніку спявае.
Кот ля сцяны разлёгся, мыецца ляніва,
І галасы людзей чуваць на скрыжаванні.
У краме з'явіцца хлеб з нашай роднай нівы,
Ды банкі з малаком забразгаюць уранні.
Мінуць цяжкія дні нядолі і разгрому,
Забудзем мы пра раны і пра ўсё былое,
Мы будзем жыць ізноў ва ўласным доме,
Ізноў хадзіць па сонечных пакоях.

Пераклаў С. ДЗЯРГАЙ



Спявае хор пад кіраўніцтвам Міхася Ануфрыева. (Да рэцэнзіі з канцэртаў Беларускага народнага калектыву песні і танца пры ГП БГКТ, у тэатры імя Ал. Вянгеркі. Стар. 3).




Лета, 1944 год. Смяротным рэхам апошняга гарматнага залпа пракацілася вайна над Беласточчынай. Час пакупова залячыў страшныя раны, якія яна з сабой прынесла.

І вось ужо шаснаццаты раз залатое, цяжарнае зярном збожжа кланяецца селяніну пад сярпом... Прабачце, гэта ж няпраўда! Лепш сказаць: ужо шаснаццаты раз выязджае селянін у поле са жняяркай... Але гэта таксама не зусім праўда — нават дзесяць гадоў таму жняярка мала дзе знаходзілася на беластоцкай вёсцы.

Тады як? Які ёсць сапраўдны вобраз? Што змянілася ў сялян на Беласточчыне за гады народнай улады?

Пытанне вельмі сур'ёзнае. Каб на яго адказаць з навуковай дакладнасцю, трэба было б сягнуць да статыстычных даведак, разглядзець чаргова год за годам, пачаўшы ад перадваеннага перыяду, шматлікія галіны сялянскага жыцця, і атрыманыя вынікі параўнаць з сучасным станам.

На жаль, рамкі кароткага рэпартажа не дазваляюць на гэткі падыход да справы. Таму прапануем паехаць да якойсьці вёскі, напрыклад, да Новага Беразова ў Гайнаўскім павеце, і там на месцы пабачым, як прадстаўляюцца гэтыя справы.

### АД ЛАПЦЯЎ ДА МАТАЦЫКЛАЎ

Вёска Новае Беразова. Шырокая, брукаваная вуліца. Каля дамоў — гародчыкі кветак. А дамы — адзін у другі. Новыя, прыгожыя. Прыемна прайсціся вуліцай гэтай вёскі. Відаць, людзі жывуць тут культурна, заможна.

На ўсю вёску, а ёсць тут 102 гаспадары, усяго толькі 5 дамоў пакрытых саламянымі стрэхамі. Але і гэтыя домікі, — гавораць жыхары вёскі, — хутка будуць ліквідаваны. Яны аджылі сваё. На месцы іх стануць новыя, больш сучасныя. Нават гаспадарчых пабудоў, пакрытых саламянымі стрэхамі, у вёсцы стае ўсё менш. Большасць пабудоў пакрыта дахоўкай або бляхай.

А яшчэ да вайны, як гавораць жыхары вёскі, большасць хат былі пакрыты саломай. Карэнныя змены ў выглядзе вёскі Нова Беразова пачалі заходзіць у гады народнай улады. За гэты час у вёсцы пабудавана каля 40 новых дамоў. Вёска электрыфікавана і радыёфікавана.

Разам з гэтым хутка змянялася і матэрыяльнае становішча жыхароў.

Матацыкл у вёсцы — гэта ўжо амаль нічога асаблівага. Жыхары вёскі зараз маюць 13 матацыклаў, 2 маторныя веласіпеды, а звычайныя веласіпеды амаль у кожнай хаце, а то і па два. Да вайны мала хто ў вёсцы меў веласіпед, не гаворачы ўжо аб матацыклах.

Яшчэ не так даўно радыёпрыёмнікі ў вёсцы мелі толькі бацюшка і кіраўнік мясцовай школы. Зараз у вёсцы ёсць 10 радыёпрыёмнікаў, а ў кожнай хаце грае радыёкропка. Большасць сем'яў маюць уласныя швейныя машыны. Аб дабрабыце і культуры жыхароў вёскі сведчыць таксама і ўнутраны выгляд хат. Памаляваныя падлогі ў пакоях, новая мэбля ў кожнай хаце, парадак і чысціня найлепш сведчаць аб тым, што людзі пачалі тут жыць па-новаму. А яшчэ да вайны не рэдкасцю тут былі куры пад печчу або парсючок на кухні.

— Я чалавек не стары, — гаворыць кіраўнік мясцовай школы Уладзімір Чабай, — але добра памятаю, як за санацыі шмат людзей у вёсцы хадзіла ў лапцях. Цяпер па вопратцы не адрозніш нашых людзей ад гарадскіх. Апранаюцца густоўна і не малую ўвагу звяртаюць свайму знешняму выгляду.

— І есці сталі па-чалавечы, — дадае 70-гадовы бацька кіраўніка — Міхась. Людзі перасталі пасціць. Калісь хто меў нейкае яечка, сыр, масла ці курыцу, то нёс у Гайнаўку. Цяпер таксама прадаюць мо' яшчэ і больш, але і сабе не шкадуюць. Дзякуючы лепшым вынікам гаспадаравання, грошы ў людзей завяліся. Дык

(Працяг на стар. 4)

З ВЫПАДКУ СВЯТА ВЫЗВАЛЕННЯ, УСІМ ЧЛЕНАМ БГКТ, ЧЫТАЧАМ «НІВЫ» І НАШЫМ СІМПАТЫКАМ СКЛАДАЕМ САРДЭЧНЫЯ ВІНШАВАННІ, ЖАДАЕМ ПОСПЕХАЎ У ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ І ШЧАСЦЯ Ў АСАБІСТЫМ ЖЫЦЦІ.

ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ
БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА
І
РЭДАКЦЫЯ «НІВЫ»



Аб баявых подзвігах партызан з атрада імя Дзяржынскага расказаў сабраным на ўрачыстасці ўдзельнік баёў Уладзімір Койла...
(Да «Памяці загінуўшых» стар. 7)

# учарашняй Румыніі

некалькі год таму над маляўнічым бухарэсцкім возерам. Этнографы расказалі мне цікавую гісторыю ўзнікнення гэтага музея.

Падчас мінулай пяцігодкі на рацэ Сірэт, у Букавіне, была распачата пабудова дамбы і гідраэлектрастанцыі. У сувязі з гэтым неабходна было ліквідаваць некалькі распаложаных у даліне гуральскіх вёсак. На іх месцы было запланавана штучнае возера. Сяляне атрымалі іншую зямлю, а іх хатамі заняліся этнографы. Яны выбралі найбольш характэрнае для гэтай мясцовасці і перавезлі ў Бухарэст. Такі быў пачатак Скансенаўскага музея. Сёння Скансенаўскі музей мае 49 экспанатаў — гаспадарак, касцёлаў, ветраных мельніц, прымітыўных мельніц, адлюстроўваючых рэгіянальнае народнае будаўніцтва ўсёй Румыніі.



**На здымку: фрагмент рафінерыі ў Плоэшце.**

Хаткі скромныя, убогія, а ўсё ж-такі прыгожыя сваёй прастатою. Яны з'яўляюцца жывой гісторыяй даўнейшай адсталай Румыніі — краіны, якая змяняецца на ўсёй сваёй тэрыторыі ад Сяміграда да Добруджы, ад Дуная да Прута. Успамінаю аб гэтым таму, што і ў Польшчы даўно гаворыцца аб патрэбе ўтварэння такога музея. Аднак дагэтуль усё канчаецца толькі на дыскусіі. А шкада. Бухарэст можа быць узорам для нас.

З гэтымі думкамі пакідаю гасцінную сталіцу Румыніі. Дарога вядзе да нашых сяброў на другім баку Дуная — да балгараў.

У. ЛАЗІНСКІ

*Думкі пасля канцэрта*

# Больш беларускага фальклору

Калі мне прыходзіцца пісаць рэцэнзіі з канцэртаў самадзейных калектываў, тады заўсёды адчуваю вялікае хваляванне. Як жа тут, у некалькіх словах, ацаніць працу людзей, якія самі без прымусу прыходзяць на рэпетыцыі, прабываюць тут па некалькі гадзін у тыдзень закошт заслужанага для сябе адпачынку. Такімі людзьмі — поўнымі энергіі і ахвярнасці — з'яўляюцца ўдзельнікі Беларускага народнага калектыву песні і танца пры Галоўным Праўленні Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

Добра ведае яго насельніцтва Беластоцкага ваяводства. Калектыў наведаў не адзін куток Беласточчыны. Ён выступаў не толькі ў павятовых гарадах, але і ў далёкіх мястэчках і вёсках — усюды нёс песню, радасць і вясёлую ўсмешку. Імена за гэтую ўсмешку і энтузіязм калектыву належыцца найбольш апладысментаў.

Беларускі Народны Калектыў вядомы мне амаль ад пачатку яго існавання. Нягледзячы на тое, што складаецца з самадзейнікаў зрабіў вялікія дасягненні, развіўся, мастацка пасталеў. Відна гэта па ўзроўні выканання, рэпертуарных амбіцыях, па спаянасці калектыву, ахвоце, з якою працуюць амаль усе яго члены і па ўкладзе сіл кіраўніка хору і музычнай групы — Міхася Ануфрыева, а таксама шматгадовага харэаграфа — Тацяны Гіжэўскай.

Тым больш кідаецца ў вочы няроўнае апрацаванне праграмы канцэртаў, калі побач вартасных нумароў, сапраўды добра выкананых хорам, танцавальнай ці музычнай групамі, ставіцца вельмі слабое жаночае трыё, слабенькі мужчынскі квартэт ці непадрыхтаваных салістаў. Гэта толькі псуе агульнае ўражанне аб калектыве, абніжае яго мастацкую вартасць.

Выбачайце, што менавіта гэтымі крытычнымі словамі пачала я свае заўвагі аб канцэрце калектыву ў зале тэатру імя Ал. Вянгеркі. Але яны менавіта павінны быць для кіраўніцтва матoрам дзеяння. Зроблена ж так многа, дапрацавалася добра гучэўшага хору, свежай і жывой балетнай групы, арыгінальнага музычнага калектыву, дробныя няўдачы не павінны засланяць агульных дасягненняў.

Выступленне Беларускага народнага калектыву ў зале тэатру імя Ал. Вянгеркі беластачане прынялі вельмі прыхільна. Меладыйныя і адначасова нескладаныя песні: беларускія, польскія і рускія, а таксама частушкі, жартоўныя песні ўзнагароджаны былі шматлікімі воплескамі. Хор гучэў добра, спяваў чыста з належным вычуццем рытмікі і дынамікі. Найбольш спадабаліся велічны «Нёман» з сольнай партыяй Ніны Свентахоўскай і Аляксандра Каліноўскага і дынамічная «Беларусь».

Танцавальная група выступіла з папулярнай «Бульбай», малдаўскімі танцамі, жартоўным «Юрачкам» і «Беларускай суітай». Так як і песні, танцы вызначаліся прастатой кампазіцыі і дакладным выкананнем. Маладыя танцоры паланілі перадусім лёгкасцю і плаўнасцю рухаў. На ўвагу заслугоўвае выкананая з вялікім поспехам «Беларуская суіта» і выдатны «Юрачка». Поспех «Юрачкі», гэта вялікае дасягненне таленавітага танцора Янкі Крупы.

Калектыў музычны чыста і тонка акампаніраваў цымбалісткам: Галі і Ірцы Ануфрыевым, а таксама спевакам і танцорам. Дасціпным канферансам забаўлялі Раіса Пракопчык і Аляксандр Каліноўскі.

Падсумоўваючы, канцэрт вельмі прыемны. Здаецца мне, што быў бы ён яшчэ прыямнейшы, калі б у яго праграме знайшлося больш беларускіх песняў і танцаў. Дык жа матывам дзейнасці калектыву з'яўляецца ў асноўным прапагаванне беларускага фальклору.

К. МАРШАЛЭК



**Танцавальная група Беларускага народнага калектыву песні і танца пры ГП БГКТ. (Харэаграф — Тацяна Гіжэўская).**

Відавочна, увесь гэты час Сагава прыглядаўся да нас, каб пакінуць таго, хто яму больш спадабаецца. І я трапіў у секцыю Такагі, у якой працаваў ён сам. Там маімі новымі сябрамі сталі Хасака і Саса, якія прышлі з іншай секцыі.

Тут, за цаглянай сцяной, усю цяжкую працу выконвалі кітайцы, і сюды не меў права ўваходзіць ніхто з працуючых у іншых аддзелах.

У секцыі маёра Такагі працавала каля сарака асоб. Секцыя мела восем лабараторый і іншыя памяшканні, у тым ліку сховішча для культываваных смертаносных бактэрый.

Уваход у секцыю закрывала цёмначырвоная парт'ера; вокны, калі іх можна назваць вокнамі, для аховы ад мух былі зацягнуты густымі жалезнымі сеткамі.

Ад ваеннага лекара Цудзіцука мы атрымалі белыя ахоўныя халаты, рабочую форму колеру хакі, гумовыя боты і пальчаткі, маскі і шапкі. На кожнай рэчы белай фарбай былі напісаны нумар секцыі і асабісты нумар.

— Рэчы, якія вы цяпер атрымалі, — гэта ваша асноўная зброя, асабліва ахоўныя халаты. Іх можна насіць толькі ў лабараторыі.

Аднойчы ў суботу на пачатку мая я, Саса і Хасака сядзелі ў вызначаным нам пакоі і чыталі кнігі па бактэрыялогіі. Было ўжо каля пяці гадзін вечара, і мы збіраліся выходзіць, як у пакой увайшоў Сагава і сказаў:

— Маёр Такагі цяпер, відавочна, знаходзіцца ў зале для нарад у галоўным будынку, а мо' ўжо пайшоў зусім. Нехта з вас павінен схадзіць туды і даведацца, ці там ён?

16

— Дазвольце, — схапіўся я і выйшаў з пакоя.

Уваход у галоўны будынак знаходзіўся ў канцы шырокага калідора. Справа былі лабараторыі секцыі чумы, злева — секцыі халеры. Трапіць у гэтыя лабараторыі без дазволу было немагчыма. Падыйшоўшы да ўваходу ў галоўны будынак, я спытаў у вартаўніка, дзе знаходзіцца маёр Такагі. Вартаўнік адказаў, што маёр ужо выйшаў.

Вяртаючыся назад, я прыпадкова глянуў у акно, якое выходзіла на панадворак, і ўбачыў дзіўную закрытую машыну зялёнага колеру, без акенцаў. Яе абкружала ахова ў цывільным. Было ясна, што гэта пераапранутыя жандармы. Ахоплены цікавасцю, я затрымаўся і пачаў назіраць.

Прыпомніўшы, што ў калідоры стаяць не дазваляецца, я павярнуўся і зноў пайшоў да галоўнага будынка.

Каля машыны я ўбачыў дзесяткаў два мужчын у наручніках і з завязанымі вачыма. Гэта былі не японцы. Большасць з іх былі падобны на кітайцаў, пяць-шэсць асоб мелі русыя валасы. Іх выштурхвалі з машыны праз заднія дзверцы. Тых, якія не маглі стаяць на нагах, жандармы падхапілі пад рукі і спусцілі на зямлю. Калі ўсіх увялі ў галоўны будынак праз дзверы, якімі мы ніколі не карысталіся, я спешна вярнуўся ў свой пакой.

Далажыўшы Сагава аб маёры Такагі, я ціхенька сказаў Саса і Хасака:

— Вы ведаеце, што я цяпер бачыў! Прывезлі вязняў, да гэтага не японцаў. Усе з павязкамі на вачах і ў наручніках.

17

— Напэўна, іх прывезлі для працы, — сказаў Хасака.

— Не, не можа быць, — з паважным выглядам прыкмеціў Саса. — Дык у галоўны будынак не дазваляецца заходзіць нікому, а тым больш чужаземцам. Гэта, напэўна, шпіёны! Саса чуў аднойчы гутарку аб тым, што ў атрад накіроўваюць злоўленых шпіёнаў.

Мне таксама спачатку паказалася гэта праўдападобным, але чым больш я думаў аб іх, тым больш сумняваўся.

Вярнуўшыся ў казарму, я ўсё глядзеў у вокны, думаючы зноў убачыць людзей у наручніках. Але ніякіх прыкмет прабывання іх у галоўным будынку я не заўважыў.

Адгэтуль я звяртаў увагу на праязджаючыя машыны, але нічога падобнага не заўважыў. Але вось аднойчы ў суботу вечарам Саса прыбег да мяне і ціха сказаў:

— Я таксама бачыў! Сёння каля трох гадзін дня.

Неўзабаве мы прыкмецілі, што на нас пачалі звяртаць увагу. Кожную суботу ў тры гадзіны дня ў нашым пакоі на вокнах апускалі цёмныя шторы. Мы былі ўпэўнены, што менавіта ў гэты час прывозілі новых вязняў. Гэта зразумелі ўсе. Нават у групе, занятай сельскагаспадарчымі працамі, пачаліся сакрэтныя гутаркі аб вязнях. Доўгі час аб гэтым гаварылі толькі ў вузкім кругу сяброў.

Дзе ў рэчаіснасці трымалі таямнічых вязняў? Гэтага ніхто не ведаў, і ўсе будавалі ўсемагчымыя здагадкі

(Працяг будзе)

18

# Адкуль бярэцца землетрасенне?

Землетрасенне не без падстаў залічваецца да адной са страшнейшых з'яў прыроды. Хоць самі на сабе мы не адчуваем бедаў землетрасення, (бо ў нас яны моцныя не бываюць), аднак чуем па радыё і чытаем у газетах аб трагедыях тысяч і мільёнаў людзей, мясцовасці якіх наведала землетрасенне.

Землетрасенне прыносіць многа гора і матэрыяльных страт, але ані на грош не маюць рацыі тыя, хто гаворыць, што землетрасенні азначаюць хуткі канец свету. Землетрасенні былі раней і тлумачацца прыроднымі з'явамі, якія адбываюцца ўнутры Зямлі.

Калі мы плывем па моры, то зусім не здзіўляемся факту, што гойдаемся. Справядліва лічым, што нашае гойданне выклікана хваляваннем вады. Зямлю, цвёрды грунт мы прызвычаіліся лічыць, чымсьці непарушным. Тым часам нашая Зямля пастаянна трасецца — ніколі яна зусім спакойнай не бывае. І хоць катастрафальныя землетрасенні здараюцца даволі рэдка, у сярэднім раз у год, то меншых, менш знішчальных, налічваецца да 10 у год, а патрасенняў, якія не нішчаць будынкаў, але якія людзі адчуваюць — да 10 000, слабых патрасенняў неадчувальных, якія запісваюць толькі спецыяльныя прыборы — сейсмографы — да 100 000 у год. Бываюць землетрасенні, выкліканыя, напрыклад, падводнымі выбухамі вулканаў.

Аднак самыя частыя і самыя страшныя — гэта тэктанічныя землетрасенні. Выступаюць яны на вялікіх абшарах мацерыкоў і на днах акіянаў. Складаюць каля 90 прац. усіх землетрасенняў. Найчасцей такія землетрасенні выступаюць паблізу маладых гор або берагоў акіянаў, дзе ёсць расколіна ў зямной кары.

Непасрэднай прычынай тэктанічных землетрасенняў бывае перамяшчэнне (з месца на месца) скальных мас унутры Зямлі, якое найчасцей адбываецца на глыбіні 100 км, часам на 600 — 700 км.

Унутры зямной кары расце напружанне. Калі напружанне ўзрасце так, што пароды, з якіх складаецца зямная кара, у даным месцы не могуць вытрымаць яго, яны расколваюцца і гвалтоўна перамяшчаюцца ў кірунку, дзе спатыкаюць меншае супраціўленне, звычайна ўніз. Зямля трасецца. Падчас землетрасенняў узнікае велізарная колькасць энергіі. Аблічана, што ў час мацнейшых патрасенняў узнікае столькі энергіі, колькі магла б даць савецкая электрастанцыя Днепрагэс на працягу 350 год.

А цяпер спытаем, якія прычыны тых напружанняў, што выклікаюць землетрасенні?

Глыбока ў Зямлі знаходзіцца маса ўжо напалавіну цвёрдая (ядро Зямлі складаецца з жалеза, але ў стане вадкім). Хіба ведаеце, што прычынай гэтага з'яўляецца высокая тэмпература нутра Зямлі. Паўцвёрдыя, пластычныя масы пароды значна больш рухлівыя ад зямной кары і знаходзяцца ў пастаянным руху. У выніку гэтага руху то ў адным, то ў другім месцы ўзнікае моцны ціск і напружанне.

Прычыны, якія выклікаюць рухі глыбокіх мас пароды наступныя:

1. пастаяннае, хоць вельмі павольнае змяншэнне абароту Зямлі (Працей кажучы — Зямля круціцца штораз павольней).
2. працэс скурчвання Зямлі ў выніку пастаяннага выхаладжвання яе нутра (Зямля стыне).
3. прылівы і адлівы, выкліканыя прыцягваннем Месяца.



Шчыліны, якія ўтварыліся ў выніку землетрасення.

СВЯДОМАЕ МАЦЯРЫНСТВА

## Запабяганне цяжарнасці

Для здаровай жанчыны, якая рэгулярна мае «свой час» у запабяганні цяжарнасці, вялікае значэнне мае «супружаскі каляндар» (kalendarzyk małżeński). Паводле яго, запладненне магчыма толькі 7—8 дзён на працягу месяца, а рэшта — няплодныя дні, у час якіх жанчына не можа стаць цяжарнай.

Як аблічыць плодныя і няплодныя дні?

Перш за ўсё кожная жанчына павінна навучыцца запісваць першы дзень кожнага перыяда (свайго часу). Гэта вельмі важна.

Па нейкім часе жанчына ўжо знаёма з цыклам свайго перыяду і ведае, ці з'яўляецца ён рэгулярным. Калі не, то з якім адхілам бывае ў яе месячны цыкл. (А перыяды бываюць у 21 дзень, найменшы, і 34 — найбольшы). Плодныя дні найлепш аблічыць ніжэй апісаным спосабам.

Рысуем простую лінію, на якой зазначаем першы і апошні дзень данага цыкла (21, 28, 30 і гд.). Пасля дзелім лік дзён цыкла на палавіну і зазначаем гэты дзень рыскай. Ад гэтага дня закрэсліваем тры дні спераду і тры дні наступныя. Для большай бяспечнасці яшчэ па аднным, або больш, дню можна дадаць). Гэтыя дні з'яўляюцца плоднымі.

Для 28-мідзённага цыкла плодныя дні будуць ад 10—18 дня. Ад 1-га да 9 дня (лічым заўсёды ад пачатку апошняга перыяда). і ад 19-га да першага дня наступнага перыяда будуць днямі няплоднымі.




Для іншага цыкла, скажам 24-дзённага, плодныя дні будуць ад 8—16 дня.

З мужчынскіх сродкаў, запабягаючых цяжарнасці, найлепшыя прэзерватывы. Яны найбольш пэўныя і найлягчэй іх стасаваць. Купіць іх можна ў кожнай аптэцы і кожным газетным кіёску.

М. Х.

# НАВІНЫ ТЭХНІКІ

НАВІНЫ ТЭХНІКІ

## Штучнае ўгнаенне з дыму

Жоўтыя клубы дыму валілі з комінаў азотнага завода ў венгерскім горадзе Пет, забруджваючы паветра і атручваючы раслінасць вакол яго вокісламі азоту і другімі шкоднымі рэчывамі. Інжынеры завода разам з супрацоўнікамі Веспрамскага навукова - даследчага інстытута асноўнай хімічнай прамысловасці парашылі выкарыстаць хімічныя прадукты, якія вылятаюць у комін. Яны знайшлі спосаб атрымліваць з дымавых газаў штучныя ўгнаенні. Зараз на заводзе будуецца цэх, які дасць для сельскай гаспадаркі многія сотні цэнтнераў карысных штучных угнаенняў у год, а паветра вакол тэрыторыі завода не будзе забруджвацца.

## Складаны веласіпед

Заходнегерманская фірма «Вікторыя» выпусціла веласіпед, які можна скласці і пераносіць на спіне. Патоўшчаныя для гэтай мэты трубы рамы надзейна змацоўваюцца шарнірамі.



## Корпус аўтамабіля з пластмасы

Нядаўна ў Токіо дэманстраваўся чатырохмесны спартыўны аўтамабіль «ДАТ», выпушчаны японскай фірмай «Ніcам», корпус якога зроблены з пластмасы. Даўжыня аўтамабіля 3,86 метра, шырыня — 1,46 метра і вышыня — 1,53 метра. На ім установлены чатырохцыліндравы матор магутнасцю ў 34 конскія сілы. Найбольшая хуткасць аўтамабіля — 95 кіламетраў у гадзіну. Пластмасавы корпус машыны важыць усяго 108 кілаграмаў, а агульная вага машыны — 726 кілаграмаў. Рухавік скарыстоўвае 5,5 літра гаручага на 100 кіламетраў шляху.



## Аб гадзюках

### Самая ядавітая

Найстрашнейшай сярод гадзюк з'яўляецца афрыканская мамба. Сярод розных мамбаў найгоршую славу маюць чорныя мамбы. Мамбы — гэта доўгія гадзюкі да 2 метраў, вельмі тонкія, але надта хуткія, бо калі вуж паўзе 1 км на гадзіну, то мамба 10 км. Тым страшнейшая, што пастаянна знаходзіцца на дрэве, адкуль бліскавічным рухам галавы атакуе праходзячых унізе звяроў ці людзей.





### Найбольшы

Рэкорд мае бяспрэчна амерыканскі боа - анаконда. Даўжыня яго 10 м. Ён можа праглынуць добрага парсюка або паўгадовае цяля.

Іншая справа, што такой гасціны хапае яму на некалькі месяцаў.

## Парады для гаспадыні

Плямы ад дзёгцю трэба адразу ж саскрэбсці нажом, пасля чаго рэч намачыць у гарачым малацэ і пакінуць на гадзіну, а потым памыць у халоднай вадзе.

* * *

Плямы ад іржы трэба змачыць свежым лімонным сокам, пакрыць невялікім слоем сталовай солі і пакінуць на 20 гадзін. Потым усё гэта змыць вадой.

* * *

Емаліраваныя ванны лепш за ўсё чысцяцца соллю.

* * *

Шаўковую ватнюю коўдру трэба чысціць пшанічнымі вотруб'ямі. На забруджаную тканіну насыпаць добра сагрэтыя вотрубі і праціраць рукою. Калі вотрубі стануць бруднымі, іх трэба замяніць новымі, таксама падагрэтымі. Гэта можна зрабіць некалькі разоў. Пасля чысткі коўдру трэба выбіць.

* * *

Летам многа непрыемнасцей гаспадыням прычыняюць мураўі, якія запаўзаюць у харчовыя прадукты. Каб гэта не здаралася, краі пасуды, у якой знаходзяцца варэнне, мёд, цукар і іншыя салодкія прадукты, трэба змазаць алеем. Алей адпуджвае мураўёў.

* * *

Для таго, каб малако ў час кіпення не падгарэла, трэба каструлю перад тым, як заліць у яе малако, змачыць халоднай вадой.

